

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 600 Чэрвень, 2013 г. Год выданьня 64

## Шаноўныя чытачы!

Мы запрашаем вас зьвярнуць увагу на нумар гэтага выпуску газэты. Вы бачыце лічбу – 600. Столькі разоў выходзіла ў сьвет газэта "Беларус" і на 64 годзе свайго жыцьця мае гонар паведаміць пра гэты свой важкі набытак.

Калі б скласьці стос з усіх выпускаў газэты, то вы пабачылі б, як мяняўся фармат і аб'ём газэты, афармленьне і колеры. Але нязьменным заставаўся яе зьмест – інфармацыя пра беларускае жыцьцё ў Амэрыцы, пра навіны з Бацькаўшчыны і з іншых беларускіх асяродкаў у замежжы.

Чытачамі газэты былі паваенныя эмігранты, потым іх дзеці і ўнукі, а цяпер і новая эміграцыя з Беларусі. Напачатку газэта чыталася толькі ў замежжы, але пасьля распаду савецкай імпэрыі ў яе зьявіліся чытачы на Бацькаўшчыне, геаграфія распаўсюду выданьня за апошнія дзесяцігодзьдзі значна пашырылася і за кошт падпісчыкаў з іншых краінаў, дзе ўзьніклі новыя беларускія аб'яднаньні.

Выдавалі газэту таксама прадстаўнікі розных пакаленьняў эміграцыі. Доўгі жыцьцёвы шлях выданьня сьведчыць пра тое, што ўвесь гэты час сярод беларускай эміграцыі ў Амэрыцы знаходзіліся людзі, якія бралі на сябе цяжкі абавязак утрымоўваць газэту, мелі адказнасьць перад беларускім грамадзтвам захоўваць свой пэрыядычны друк, роля якога надзвычай важная. Дазвольце ад вашага імя, шаноўныя чытачы, выказаць усім ім шчырую падзяку.

Але гэтага мала, трэба працягваць іхную справу, трымаць газэту і надалей, захаваць яе на будучыню. Гэта залежыць ня толькі ад выдаўцоў, але і ад вас, нашыя паважаныя чытачы. Выданьне газэты – сумесная адказная супраца рэдакцыі і чытачоў як у справе забесьпячэньня газэтных старонак інфармацыяй, так і ў фінансаваньні. Выказваем надзею, што наша з вамі сумесная праца будзе плённай і трывалай, што "Беларус" дажыве і да наступнага круглага нумару з двума нулямі. Тым больш важная наша роля, што сёньня ў беларускім замежжы колькасьць пэрыёдык значна скарацілася, і мы ўзялі на сябе ролю адлюстроўваць ня толькі беларускае жыцьцё ў ЗША, але і ў іншых краінах, дзе беларусы ня маюць сваіх газэтаў.

Чытайце гэты юбілейны выпуск, а наступным нумарам мы распачнём ужо новую - сёмую сотню, якая, спадзяемся, таксама стане ў свой час далейшым здабыткам беларускага пэрыядычнага друку на эміграцыі.

*Рэдакцыя*

# Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі



*Івонка Сурвілла і Дэвід Суорц*

1 чэрвеня 2013 у Нью-Ёрку ў памяшканьні беларускага грамадзкага цэнтру пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне прайшла XXVIII Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасяджэньні Сэсіі адбываюцца раз на два гады ў розных краінах. Мінулая Сэсія праходзіла ў Лёндане.

Ва ўступным слове старшыня Рады Івонка Сурвілла вызначыла галоўныя мэты дзейнасьці Рады БНР, сярод якіх – захаваньне незалежнасьці Беларусі, дэмакратызацыя і абарона правоў чалавека – вызваленьне палітвязьняў, спрыяньне дэмакратычным пераўтварэньням на Бацькаўшчыне. Дзеля гэтага сябры Рады будуць працягваць супрацоўніцтва з прадстаўнікамі парлямэнтаў і ўрадаў сваіх краінаў. Івонка Сурвілла адзначыла як станоўчы факт, што ў апошні час зрабіліся больш шчыльнымі кантакты Рады зь лідэрамі палітычных і грамадзкіх арганізацый на Бацькаўшчыне, што спрыяла прыняцьцю летась вядомага Віленскага Мэмарандуму.

На Сэсіі ў якасьці госьця быў запрошаны першы амбасадар ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц, які абгрунтаваў ягоную ідэю аб мэтазгоднасьці прызнаньня урадам ЗША Рады БНР, як адзінага легітымнага беларускага ўраду. На пачатку свайго выступу на Сэсіі Дэвід Суорц заявіў:

«Палітыка Амэрыкі адносна Беларусі пачынаючы зь сярэдзіны 1990 гадоў ня мела амаль ніякага станоўчага ўплыву на дыктатарскі рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Яго аўтакратычнае кіраваньне ператварылася ў асабліва жорсткі і дыктатарскі рэжым. ЗША афіцыйна заявілі, што прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ў сьнежні 2010 году прайшлі з сур'ёзнымі парушэньнямі і, адпаведна, Лукашэнка не зьўляецца легітымным прэзыдэнтам Беларусі. Ён адказаў самымі жорсткімі да гэтага часу рэпрэсіямі супраць дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі.

Для Злучаных Штатаў прыйшоў час пашукаць сапраўды дэмакратычнага прадстаўніцтва Беларусі ў іншым месцы. Кажучы канкрэтна — ды з усёй сур'ёзнасьцю і адказнасьцю за словы — я заклікаю Злучаныя Штаты надаць фармальнае дыпляматычнае і юрыдычнае прызнаньне Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі як законнай уладзе краіны».

Дэвід Суорц коратка нагадаў гістарычныя абставіны ўзьнікненьня Рады БНР, адзначаючы, што ад 1919 году Рада БНР дзейнічае як дэмакратычны ўрад у выгнаньні, які ўключае ў сябе як выканаўчы, так і заканадаўчы кампанэнты. Пад канец 2012 году, дадаў Суорц, лідэры беларускай апазыцыі падпісалі са старшынёй Рады БНР Мэмарандум, «у якім прызналі вядучую ролю Рады БНР у вяртаньні свабоды і дэмакратыі ў Беларусі



*Сябры Рады Мікола Пачкаеў (зьлева) і ВячкаСтанкевіч у часе дыскусіі*

ды паабяцалі сваю поўную падтрымку і супрацоўніцтва».

Дыплямат адзначыў, што існуюць шматлікія прэцэдэнты ў дыпляматычнай гісторыі ЗША, калі Вашынгтон прызнаваў урады ў выгнаньні. Ён нагадаў пра прызнаньне, якое ЗША надалі польскаму ўраду ў выгнаньні пасьля захопу Польшчы нацысцкай Нямеччынай у 1939 годзе. Суорц таксама прывёў прыклад дыпляматычнага прызнаньня, нададзенага Вашынгтонам урадам незалежнай Літвы, Латвіі і Эстоніі, якія апынуліся ў выгнаньні пасьля далучэньня Сталіным гэтых краінаў да СССР.

Ён спаслаўся таксама на прэцэдэнт у найноўшай дыпляматычнай гісторыі ЗША

*Працяг на 2-й бачыне*

# Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

*Працяг з 1-й бачыны*

(які называе «рызыкоўным»), калі амэрыканскі ўрад летась прызнаў апазыцыйную кааліцыю ў Сырыі як легітымнага прадстаўніка гэтай краіны на міжнародным форуме.

Свой выступ сп. Суорц заключыў наступнаю высноваю: «Па іроніі лёсу, рызыка і выклікі, якія стаяць перад ЗША пасьля рашэньня адносна Сырыі, паказваюць шлях, якім трэба ісьці, каб вырашыць беларускую галаваломку. У Беларусі не-прэзыдэнт Лукашэнка (гэта афіцыйны амэрыканскі погляд) кіруе краінай з штораз большай тыраніяй з 1994 году (калі ён перамог на прэзыдэнцкіх выбарах, якія тады магчыма было разглядаць як свабодныя і справядлівыя). На працягу шматлікіх гадоў ЗША патрацілі дзясяткі мільёнаў даляраў на неэфэктыўныя, а на самай справе контрпрадуктыўныя праекты «дапамогі». У выніку атрымалі дыктатара, які, як падаецца, цяпер кантралюе краіну яшчэ мацней, чым тады, калі прыйшоў да ўлады. Наступствы прэзыдэнцкіх «выбараў» у сьнежні 2010 году: разьвязаны Лукашэнкам тэрор КДБ, ад якога ня быў застраханы ніхто, уключна з кандыдатамі ў прэзыдэнты, прадэманстраваў сумную праўду, што Захад нездольны ажыцьцявіць пазытыўныя грамадзкія перамены ў Беларусі.

Настаў час для больш радыкальнага падыходу, цалкам у адпаведнасьці з амэрыканскай палітыкай у гэтым рэгіёне ў мінулым ды зь нядаўнім прэцэдэнтам у Сырыі. Віленскі мэмарандум, які фармальна злучае БНР у выгнаньні з ключавымі палітычнымі сіламі апазыцыі ўнутры краіны, дае Вашынгтону унікальную магчымасьць. Няхай цяпер ЗША пашлюць Лукашэнку і ягоным паслугачам магутны сыгнал непрызнаньня. Давайце прызнаем беларускі ўрад у выгнаньні і яго саюзьнікаў у краіне, якія ўвесь час падзяляюць нашы традыцыйныя каштоўнасьці дэмакратыі і павагі да правоў чалавека. Няхай нашы аднноўленая абавязаньні адносна дэмакратычнага адраджэньня Беларусі дойдуць да ведама ўсіх тых у суседстве краіны і далей, якія разглядаюць Беларусь у якасьці пешкі ў той ці іншай цынічнай геапалітычнай гульні».

Сп. Суорц паведаміў, што мае намер дабівацца ажыцьцяўленьня выказанай прапановы і будзе прымаць канкрэтныя практычныя крокі.

Таксама на Сэсію быў запрошаны старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі-БНФ Зянон Пазьняк, у сваім выступе ён зрабіў аналіз сытуацыі ў беларускім замежжы і палітыкі дзяржаўных прадстаўніцтваў Беларусі ў адносінах да дыяспары, якая скіраваная на раскол беларускіх асяродкаў у замежжы і агітацыю за супрацоўніцтва з рэжымам.

Рада БНР прыняла рэзалюцыю ў справе разьмяшчэньня на тэрыторыі Беларусі расейскіх вайсковых базаў. «З прыходам да ўлады А. Лукашэнкі, які расплочваецца за адсутнасьць эканамічных рэформаў незалежнасьцю краіны, палітыка Крамля набыла прыкметы акупацыйнай – адзначаецца ў дакумэнце. – На тэрыторыі Беларусі ўжо існуюць два расейскія вайсковыя аб'екты – у Вялейцы і пад Ганцавічамі, рэгулярна праводзяцца сумесныя з Расеяй вайсковыя манэўры, пад час якіх адпрацоўваецца нанясеньне ўдараў па тэрыторыі дзяржаваў Эўрапейскага Зьвязу. З улікам таго, што ўлада ў Маскве знаходзіцца ў рукох КДБ-ФСБ, а расейская вайсковая дактрына накіраваная супраць дэмкратычных краінаў Захаду, Беларусь робіцца закладнікам імпэрскіх інтарэсаў Крамля. Усё гэта ставіць пад пагрозу незалежнасьць Беларусі. Рада БНР лічыць недапушчальным разьмяшчэньне на тэрыторыі Беларусі расейскіх вайсковых базаў і патрабуе іх неадкладнага вываду».

У склад Рады БНР былі прынятыя новыя сябры.

*Ганна Сурмач*

# Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

8 чэрвеня ў Нью-Ёрку, у грамадзкай залі на Атлантык Авэню 401 у Брукліне, прайшоў чарговы справаздачна- выбарчы Кангрэс Беларуска–Амэрыканскага Задзіночаньня. У адпаведнасьці са Статутам БАЗА Кангрэсы праводзяцца раз на два гады. Папярэдні адбыўся 28 траўня 2011 году ў Гайленд Парку.

У Кангрэсе бралі ўдзел непасрэдна ці праз упаўнаважаньні дэлегаты ад аддзелаў і гурткоў БАЗА зь Нью-Ёрку, Нью-Джэрзы, Агаё, Вашынгтона, Канэтыкута, Каліфорніі, Флярыды. Дэлегатаў Кангрэсу прывіталі і пажадалі посьпехаў старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла і старшыня Згуртаваньня беларусаў Канады Валянціна Шаўчэнка, былі зачытаныя іх пісьмовыя допісы. Далей былі заслуханы справаздачы ад Галоўнай управы БАЗА і ад структурных арганізацый, а таксама інфармацыі ад рэдакцыі газэты “Беларус” і часапіса “ Belarusian Review”.

Дэлегаты Кангрэсу выказалі асаблівую падзяку за актыўную дзейнасьць Гуртку БАЗА ў Вашынгтоне і ягонай старшыні Алесі Кіпель за эфэктыўную працу па ўстанаўленьню і падтрыманьню кантактаў зь дзяржаўнымі структурамі ЗША, па інфармаваньню іх пра беларускія праблемы. Таксама падзяка выказвалася Гуртку БАЗА ў Каліфорніі, старшыня якога Алесь Арцюховіч даслаў зьмястоўную інфармацыю пра іх актыўнасьць у арганізацыі беларускага жыцьця на заходнім узьбярэжжы ЗША. Пазытыўна адзначана і дзейнасьць беларусаў у Канэтыкуце. На добрым узроўні распачаў сваю працу створаны ў канцы мінулага году Гурток у ў Паўдзённай Флярыдзе, ад іх была заслуханая пісьмовая справаздача. Плённа дзейнічае ў Нью-Ёрку Бруклінскі аддзел БАЗА, шэрагі якога папаўняюцца новымі сябрамі, вынаходзяцца новыя формы грамадзкай працы.

Пасьля зацьвярджэньня справаздачаў адбыліся выбары новага складу Галоўнай управы і Рэвізыйнай камісіі БАЗА. У склад гэтых кіруючых і кантрольных органаў былі абраныя:

**Галоўная управа :**
Ганна Сурмач - старшыня
Вячка Станкевіч – заступнік старшыні
Сяргей Пятровіч - скарбнік
Таня Красоўская – сакратар
Ала Орса Рамана – культурна-асьветны сэктар, карэспандэнцыйны сакратар
Наталія Ганчарук – сябра
Валеры Дворнік – арганізацыйны сэктар
Яўген Іванюк – моладзевы сэктар

**Рэвізійная камісія :**
Валянціна Трыгубовіч
Сяргей Сарагавец
Расьціслаў Гарошка

## Прывітаньні Кангрэсу

### Ад Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы

Шаноўны сп. старшыня, шаноўныя дэлегаты, дарагія сябры!

Ад імя Рады БНР віншую вас з Кангрэсам БАЗА 2013 году і жадаю ня толькі пасьпяхова разгледзець усе пытаньні на парадку дня Кангрэсу, але і прыемна, у сяброўскай атмасфэры правесьці гэтую агульную сустрэчу вашага Згуртаваньня.

Я веру, што як заўсёды, у вашым пляне працы абмяркуецце і пытаньне пра тое, што беларуская дыяспара ў ЗША можа зрабіць, каб дапамагчы беларускаму народу пераадолець усе цяжкасьці на ягоным шляху да дэмакратыі, свабоды і поўнай дзяржаўнай незалежнасьці.

Веру, што мы дачакаемся зьдзяйсьненьня нашых летуценьняў пра вольную, заможную і беларускую дзяржаву – Беларусь, так, як дачакаліся дваццаць гадоў таму распаду імпэрыі, мэтаю якой было сьцерці наш край з паверхні гэтае Зямлі.

Дык памажы нам, Божа!
Жыве Беларусь!

### Ад старшыні Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады сп. Валянціны Шаўчэнкі

Дарагія сябры!

Ад імя Галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады вітаю вас з адной з самых важных падзеяў у жыцьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня – чарговым Кангрэсам, які адбудзецца 8-га чэрвеня 2013 года.

Кангрэс сьведчыць пра тое, што арганізацыя жыве і працуе. Жадаем вам і ў далейшым пасьпяхова працягваць дзейнасьць на карысьць беларусаў Амерыкі і дэмакратычных сілаў на Бацькаўшчыне.

Жыве Беларусь!

### Справаздача старшыні Галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Кангрэсу БАЗА 8 чэрвеня 2013 за пэрыяд 28.05.2011 – 8.06.2013

Шаноўныя дэлегаты!

Вітаю вас ад імя Галоўнай управы БАЗА, якая сёньня складае свае паўнамоцтвы і якая працавала два гады дзеля таго, каб дзейнасьць нашага старэйшага ў Амэрыцы Згуртаваньня беларусаў працягвалася і сёньня. Створанае ў 1949 годзе Згуртаваньне ў наступным 2014 годзе рыхтуецца сустрэць свой 65-гадовы юбі-

лей, і гэта сьведчыць пра тое, што ўвесь гэты час знаходзіліся людзі, якія дбалі пра арганізацыю, падтрымлівалі яе ў дзейсным стане і тым самым захоўвалі шмат большую па працягласьці, чым 65 гадоў, беларускую прысутнасьць у Амэрыцы. Сёньня гэты абавязак ляжыць на нас з вамі – прадстаўнікоў старэйшага пакаленьня і моладзі, якая ў будучыні павінна пераняць цалкам клопат пра нашу арганізацыю.



*Са справаздачаю пра дзейнасьць Аддзелу ў Нью Джэрзы выступае старшыня Юрка Азарка*

На пачатку сваёй дзейнасьці БАЗА аб'ядноўвала шмат больш беларусаў, чым гэта ёсьць цяпер. Згуртаваньне заклалі паваенныя эмігранты, бальшыня зь якіх была нацыянальна-сьведамымі людзьмі, яны разумелі сваю адказнасьць за пачатакваньне беларускага жыцьця за акіянам. Цяпер таксама шмат нашых суродзічаў прыяжджаюць у ЗША, значны прыток дала Лятарэя Green Card, якую штогод выйгрывалі каля тысячы грамадзянаў Беларусі. Аднак, разбурэньне нацыянальнага жыцьця на нашай Бацькаўшчыне дало свае сумныя вынікі, і таму толькі адзінкі найбольш адукаваных і з пачуцьцём нацыянальнай годнасьці людзей далучаюцца да дзейнасьці БАЗА і лічаць патрэбным прадстаўляць на чужыне менавіта сваю нацыю, а не адносіць сябе да расейцаў ці палякаў. У Брукліне, дзе мы зараз знаходзімся, жывуць тысячы беларусаў, але яны не шукаюць дарогу ў наш Беларускі цэнтар, а на сьвяты ходзяць у расейскія цэрквы.

Тым ня менш, БАЗА жыве і на сёньняшні дзень мае наступную структуру ў тых рэгёнах ЗША, дзе ёсьць беларуская прысутнасьць:

- Аддзел БАЗА ў Брукліне, які фактычна працуе на ўвесь Нью-Ёрк
- Аддзел БАЗА ў Нью Джэрзы
- Аддзел БАЗА у Агаё, Кліўлянд
- Гурткі БАЗА – у Вашынгтоне, Канэктыкуце, Каліфорніі, Паўдзённай Флярыдзе

За справаздачны пэрыяд у структуры БАЗА адбыліся істотныя зьмены. Як вы заўважылі, у якасьці структурнай адзінкі мною быў не названы Нью-Ёркскі аддзел БАЗА. Цяпер ён стаў ужо былым, бо сваімі канфліктнымі адносінамі з Галоўнай управаю кіраўніцтва аддзелу давяло сытуацыю да таго, што перастала лічыцца з кіраўніцтвам БАЗА, са Статутам і тым самым паставіла Аддзел па-за рамкамі Згуртаваньня. Большая частка старэйшых сяброў Аддзелу з-за нязгоды з такой палітыкай кіраўніцтва пакінула сяброўства ў ім, і гэтая група выступіла з ініцыятываю стварэньня новага Аддзелу – Бруклінскага.

Канфліктная сытуацыя з Нью-Ёркскім аддзелам была абмеркавана на мінулым Кангрэсе, і Кангрэс пацьвердзіў права новаабранай Галоўнай управы прыняць рашэньне па далейшаму статусу Нью-Ёркскага аддзелу ў структурах БАЗА.

Галоўная управа прыклала нямала намаганьняў, каб палагодзіць сытуацыю з кіраўніцтвам Нью-Ёркскага аддзелу, але ня мела ў гэтым посьпеху. З-за абсалютнай непрымірымасьці сп. Зайкі і некаторых іншых асобаў Галоўная управа вымушана была ўсё ж пайсьці на рашучы крок і 25 верасьня 2011 прыняць пастанову аб тым, што яна прызнае правы нью-ёркскага аддзелу фактычна аддзяліцца ад БАЗА і праводзіць самастойную дзейнасьць і па гэтай прычыне не будзе лічыць надалей Нью-Ёркскі аддзел структураю БАЗА.



Прамаўляе старшыня Бруклінскага аддзелу Тацьцяна Красоўская

Гэтая канфліктная сытуацыя забрала шмат сілаў і часу, якія можна было ўжыць на больш карысныя справы. Частка былых сяброў Аддзелу і частка кіраўніцтва заклалі новую арганізацыю "Пагоня", якая дзейнічае і вядзе сваю працу ў адпаведнасьці са сваімі ўяўленьнямі пра беларускую справу. Гэта іх права, і мы толькі можам пажадаць ім ісьці далей сваёй дарогаю.

Але мы мелі ня толькі страты. У Паўдзённай Флярыдзе сарганізавалася група актыўнай беларускай моладзі, якія заклалі там Гурток БАЗА. Пастановаю Галоўнай управы ад 27 сьнежня 2012 яны былі прынятыя у склад структураў БАЗА.

Таксама праводзіліся перамовы і ўзгадненьні аб стварэньні Гурткоў БАЗА ў Чыкага, Мінеапалісе, Бостане і пакуль гэтая справа не завершаная, яе трэба працягваць.

Я пералічыла толькі нашыя структуры, але не падаю колькасны склад сяброў БАЗА, бо канкрэтны прыём і ўлік сяброў вядуць структуры БАЗА, а роля Галоўнай управы ў тым, каб ажыцьцяўляць агульнае кіраўніцтва Згуртаваньнем.

На мінулым Кангрэсе 28 траўня 2011, а як вядома, Кангрэсы праводзяцца раз на два гады, у склад Галоўнай управы – кіруючага органа БАЗА - у пэрыяд між Кангрэсамі былі абраныя 9 асобаў:

Старшыня – Ганна Сурмач
Заступнік старшыні – Сяргей Пятровіч
Скарбнік – Сяргей Капытка
Пратакольны сакратар – Тацьцяна Красоўская
Карэспандэнцыйны сакратар – Юрась Зянковіч
Культурна-асьветніцкі сэктар – Ала Орса Рамана
Арганізацыйны ўнутраны дырэктар – Валеры Дворнік
Арганізацыйны вонкавы дырэктар – Вячка Станкевіч
Сацыяльна-дапамаговы сэктар – Віталь Алісіёнак

За справаздачны пэрыяд праведзена 15 пасяджэньняў Галоўнай управы, усе яны былі запісаныя і аформленыя належным чынам пратакольным сакратаром. Разглядаліся як важныя арганізацыйныя пытаньні, так і пытаньні штодзённай працы. Свае пасяджэньні і мерапрыемствы Галоўная управа праводзіла ў грамадзкай залі, дзе мы зараз знаходзімся, бо менавіта грамадзтва некалі купіла гэты будынак і перадала яго царкве на ўтрыманьне. Аднак БАЗА не карыстаецца заляю бясплатна, а аплочвае царкве за гэта. Найбольшыя сродкі былі перададзеныя царкве ад Бруклінскага аддзелу. Гэта справа ўзаемнай зацікаўленнасьці, бо БАЗА актыўна дапамагае царкве як ва ўтрыманьні будынку, так і ў пашырэньні колькасьці вернікаў. Агульнымі намаганьнямі мы ўтрымліваем гэты Беларускі цэнтр у Нью-Ёрку.

Галоўная ўправа лічыла адным з першасных сваіх абавязкаў пашыраць інфармацыю пра БАЗА як у ЗША, так і па-за межамі. Найперш, мы аднавілі наш сайт www. bazahq.org , які вядзе Ганна Лукашык, распаўсюджваем інфармацыю праз Фэйсбук з дапамогаю моладзі. Маем цяпер буклет пра БАЗУ ў беларускай і ангельскай мовах. Нашымі стараньнямі выходзіць у сьвет газэта "Беларус". Пад шыльдаю БАЗА выдаецца ангаламоўны часапіс "Belarusian Review".

Сярод мерапрыемстваў, якімі непасрэдна займалася Галоўная управа, быў удзел у падрыхтоўцы і правядзеньні 30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Восеньню мінулага году Сустрэчу рыхтавала Згуртаваньне беларусаў Канады ў Таронта. Аднак мы вельмі актыўна дапамагалі ім, арганізавалі прадстаўнічую дэлегацыю ад БАЗА для паездкі ў Таронта і там бралі самы дзейсны ўдзел у праграме Сустрэчы. У якасьці падарунка мы прывезьлі выдадзены намі каляровы буклет пра папярэднюю, 29-ю, Сустрэчу, якая арганізоўвалася намі ў Саўт-Рывэры.

Галоўная ўправа была арганізатарам разам з іншымі структурамі адзначэньня нашых вялікіх нацыянальных сьвятаў – 25 Сакавіка – Дня незалежнасьці, Слуцкага паўстаньня, таксама адзначала Чарнобыльскія гадавіны. Разам з Парафіяльнаю радаю Сабору арганізоўвалі сьвяткаваньне Калядаў, Вялікадня і іншых рэлігійных сьвятаў, асаблівай папулярнасьцю карысталіся Калядныя ялінкі, сумесныя сустрэчы Новага году. Зьявіліся па ініцыятыве моладзі новыя формы працы – адчыніўся і плённа дзейнічае кінаклюб, клюб кнігалюбаў.

Багата было ў нас і гасьцей, зь якімі арганізоўваліся сяброўскія сустрэчы. Да нас прыяжджала група кінематаграфістаў зь Беларусі, пасьля прыёму ў Нью-Ёрку, яны наведалі Каліфорнію, дзе іх сустракалі прадстаўнікі нашага Гуртка БАЗА. Мяркую, што ўсім добра памятаюцца тыя цудоўныя хвіліны, якія нам падаравалі сваім мастацкім выступам маладыя беларусы з Беласточчыны. Мелі мы зьмястоўную сустрэчу з групай выкладчыкаў і студэнтаў Эўрапейскага гуманітарнага унівэрсытэта, які працуе ў Вільні. Прымалі журналіста з Белсата.

*Працяг на 4-й бачыне*

*Працяг з 3-й бачыны*

У цэнтры ўвагі Галоўнай управы заўсёды былі падзеі ў Беларусі і ў беларускім замежжы. Сябры БАЗА ўдзельнічалі ў акцыях пратэсту супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі, у падтрымку патрабаваньняў аб вызваленьні палітвязьняў, дасылалі ім віншавальныя паштоўкі. У гэтай залі вы ня раз слухалі інфармацыі пра сытуацыю ў Беларусі, зь якімі выступаў сп. Пазьняк і інш.

Мы даслалі свой ліст пратэсту расейскім мясцовым уладам у Іркуцку супроць перасьледу беларускага актывіста Алега Рудакова. Таксама напярэдадні абʼяўленага прыезду ў Нью-Ёрк і сустрэчы з Генеральным сакратаром ААН міністра замежных спраў Макея ад імя Галоўнай управы мы даслалі ліст пратэсту у Сакратарыят ААН, такі крок зрабіў і наш Гурток у Вашынгтоне.

Дапамагалі мы нашым сябрам БАЗА ў вырашэньні розных прыватных і жыцьцёвых пытаньняў. Галоўная управа і Аддзелы выдавалі нашым актыўным сябрам рэкамэндацыі на атрыманьне імі палітычнага прытулку ў ЗША, і цяпер некаторыя зь іх застаюцца нашым добрым здабыткам. На жаль, далёка ня ўсе, ёсьць і такія, якія забываюцца пра БАЗА, як толькі атрымаюць дакумэнты, і больш мы іх ня бачым.

Можна было б яшчэ шмат чаго ўзгадаць, бо праца вялася бесьперапынна, вы самі былі яе сьведкамі і ўдзельнікамі.

Пра недахопы. Напэўна іх набярэцца ня менш, чым посьпехаў. Трэба больш працаваць з сайтам, рабіць яго больш зьмястоўным і мабільным. Варта было б аднавіць дзейнасьць маладзёвай арганізацыі. Увогуле, праца з моладдзю патрабуе большай увагі Галоўнай управы і, мяркую, што ў Галоўнай управе павінен быць адзін зь сяброў, які будзе адказны за гэты накірунак.

### Актуальныя задачы на будучыню

- Пашыраць інфармацыйную дзейнасьць
- Забясьпечыць выданьне кнігі пра гісторыю БАЗА
- Адзначыць 65-я ўгодкі БАЗА
- Падрыхтаваць 31-ю Сустрэчу беларусаў Паўночнай Амэрыкі (цяпер наша чарга)
- Браць больш дзейсны ўдзел у справе стварэньня Музэя народаў ЗША зь іншымі нацыянальнымі абʼяднаньнямі
- Актывізаваць працу з моладдзьдзю
- Узяць актыўны ўдзел у абмеркаваньні Закона Рэспублікі Беларусь пра замежных беларусаў
- Падтрымаць Шосты Зьезд беларусаў сьвету і па магчымасьці прыняць у ім удзел

Новаму складу Галоўнай управы пажадаю прыняць пад увагу гэтыя прапановы і плённа весьці Згуртаваньне да новых посьпехаў.

Усім сябрам БАЗА, кіраўніцтву структураў выказваю шчырую падзяку за супрацу, за падтрымку і дапамогу, за тое, што вы ёсьць кожны ў нашых шэрагах і спадзяюся, што будзеце заставацца і надалей.

Жыве Беларусь на Бацькаўшчыне і ў Амэрыцы!

*Ганна Сурмач*
*старшыня Галоўнай управы БАЗА*

## Гадавы сход Бруклінскага аддзелу БАЗА



Сход адбыўся 2 чэрвеня 2013 у грамадзкай залі на Атлянтык Авэню 401. Справаздачна-выбарчыя сходы структураў БАЗА адбываюцца штогод. Сёлета адметнасьцю сталася тое, што акрамя справаздачаў і выбараў таксама сябры Аддзелу абралі дэлегатаў на Кангрэс БАЗА.

На сходзе гэтым разам прысутнічала ў якасьці ганаровай госьці сп. Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР, якая наведвала са службовым візытам Нью-Ёрк і сустрэлася зь беларускай грамадою.

У справаздачы старшыні Аддзелу сп. Таццяны Красоўскай было адзначана, што мінулы год быў плённым і насычаным рознымі мерапрыемствамі, зьявіліся новыя накірункі і формы дзейнасьці.

У склад новай управы былі абраныя сем сяброў, старшынёю ізноў была абраная сп. Таццяна Красоўская.

*Натальля Федарэнка,*
*Сакратар управы,*
*фота Зьмітра Шчыгельскага*

## «Беларуская мара» ў Вашынгтоне: «Каб пра Беларусь не забываліся»

*Дакумэнтальны фільм Кацярыны Кібальчыч «Беларуская мара», прысьвечаны драматычным падзеям пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2010 году ў Менску, у сярэдзіне чэрвеня паказвалі ў Вашынгтоне.*

*Паказ фільму арганізавала суполка, назву якой можна перакласьці як «Афіцыянты і паэты» (названая ў гонар паэта Лянгстана Гʼюза, які пачынаў працаваць памочнікам афіцыянта). Сярод арганізатараў паказу — Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Злучаны Балтыйска-Амэрыканскі Нацыянальны Камітэт і Фрыдам Гаўз (Freedom House).*

*Сярод гасьцей былі дыпляматы, палітычныя аналітыкі, журналісты, супрацоўнікі НДА, якія займаюцца Беларусьсю.*

*Алеся Кіпель, старшыня Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне так патлумачыла той факт, чаму іхная суполка брала актыўны ўдзел у гэтай імпрэзе:*

— Задачай БАЗА заўсёды было інфармаваньне амэрыканскай грамадзкасьці пра Беларусь, пра гісторыю, палітычныя справы. І мы маем на мэце працаваць з палітычнай супольнасьцю тут, у Вашынгтоне, расказваць пра сябе, пра праблемы ў Беларусі, як мы, беларускія амэрыканцы, ацэньваем сытуацыю, як яна ўплывае на ЗША і што б мы хацелі. Такім чынам, мэта — інфармаваць тых, хто займаецца Беларусьсю, пра тое, што робіцца. Мы хочам, каб людзі атрымалі выразнае ўяўленьне што Беларусь у Эўропе, гэта эўрапейская краіна са сваёй уласнай гісторыяй, сваімі праблемамі, якія адрозьніваюцца ад расейскіх. Што ёсьць празаходнія настроі, людзі хочуць дэмакратыі, свабоды, павагі да правоў чалавека гэтаксама, як і мы ў ЗША ды ў іншых дэмакратычных эўрапейскіх краінах. Мы б хацелі, каб людзі памяталі, што Беларусь ня проста суседка Расеі, а незалежная краіна і яна заслугоўвае ўвагі амэрыканцаў.




## ЗША падоўжылі санкцыі супраць Лукашэнкі

Санкцыі супраць беларускага кіраўніка і яго атачэньня падоўжаныя на год.

Дакумэнт аб іх падаўжэньні падпісаны 13 чэрвеня прэзідэнтам ЗША Баракам Абамам. У ім гаворыцца: «У 2012 годзе ўрад Беларусі працягнуў падаўленьне палітычнай апазыцыі, грамадзянскай супольнасці і незалежных СМІ. «Парламенцкія выбары», якія прайшлі 23 верасьня, не адпавядалі міжнародным стандартам». У дакумэнце таксама ўказана, што беларускія ўлады ў мінулым годзе адвольна арыштоўвалі, затрымлівалі і заключалі ў турмы грамадзян за крытыку службовых асоб і за ўдзел у дэманстрацыях, а таксама перашкаджалі працы незалежных журналістаў.

Санкцыі прадугледжваюць блякаваньне ўласнасьці і актываў беларускіх чыноўнікаў. Амэрыканскім кампаніям забаронена заключаць зь імі здзелкі.

## Чэхія афіцыйна прызнала беларусаў

3 ліпеня чэскі ўрад прызнаў беларусаў і віетнамцаў афіцыйнымі нацыянальнымі меншасьцямі і пастанавіў прызначыць прадстаўнікоў абедзьвюх супольнасьцяў у Дзяржаўную раду па нацыянальных меншасьцях. Беларусаў ад грамадзкага абʼяднаньня «Пагоня» будзе прадстаўляць Адам Каліта.

У Чэхіі прызнаньне нацыянальнай меншасьцю аўтаматычна дае права на дзяржаўную падтрымку сваёй мовы і культуры. Дагэтуль статус меншасьці мелі 12 нацыянальнасьцяў: баўгары, харваты, вугорцы, немцы, палякі, славакі, сэрбы, цыганы, русіны, рускія, грэкі, украінцы. Меншасьці павінны адпавядаць двум асноўным умовам: іх супольнасьць павінна гістарычна дзейнічаць на тэрыторыі Чэхіі (дакладны час законам ня вызначаны), і мець дастатковую колькасьць чальцоў з чэскім грамадзянствам (іх колькасьць таксама ня вызначана).

Беларусы маюць сувязі з чэскімі землямі пачынаючы з 16 стагодзьдзя. Вялікая хваля беларускай эміграцыі ў Чэхаславаччыну адбылася ў 20-х гадах мінулага стагодзьдзя ў сувязі з прыходам бальшавікоў. Другая значная эміграцыя адбываецца ў апошнія дваццаць гадоў. Цяпер у Чэхіі афіцыйна зарэгістравана некалькі тысяч беларусаў. Яны прыяжджаюць сюды ў асноўным па эканамічных і палітычных прычынах, значная частка грамады — студэнты.

# Успаміны пішуцца дзеля будучыні



26 траўня ў грамадзкай залі пры царкве Жыровіцкае іконы Божае Маці ў Гайлэнд-парку (штат Нью-Джэрзі) адбылася прэзэнтацыя кніг успамінаў Аляксандра й Марыі Стагановічаў. Прыйшлі на імпрэзу пераважна тыя, хто з павагай ставіцца да шматгадовага грамадзкага служэньня чальцоў гэтай сям'і – актыўнага ўдзельніка эміграцыйных грамадзкіх арганізацыяў Аляксандра Стагановіча, пасьлядоўнай захавальніцы народных традыцыяў і звычаяў Марыі Стагановіч, адданага царкоўнага працаўніка Льва Стагановіча, слыннай беларускай мастачкі Тамары Стагановіч-Кольба.

Пра кнігі, напісаныя бацькамі, гаварылі іх дзеці – Тамара ды Юрка Стагановічы. Спадар Янка Запруднік распавёў пра свае колішнія кантакты й супрацу з Аляксандрам Стагановічам, у прыватнасьці, пра дыскусію з савецкімі ідэолягамі аб гістарычнай праўдзе ў пытаньні дзяржаўных межаў. Арганізавала ды вяла сустрэчу спадарыня Валянціна Трыгубовіч, сябра клюбу кнігалюбаў, створанага пры Бруклінскім аддзеле БАЗА ў Нью-Ёрку. Пра пачастунак для прысутных парупілася спадарыня Людміла Бакуновіч. А спадар Віктар Дудараў здымаў прэзэнтацыю відэакамэрай ды яе найбольш красамоўныя фрагмэнты паставіў потым на youtube.

Трэба сказаць, што амаль усе прысутныя бралі ўдзел у імпрэзе сваімі выступамі й рэплікамі. Так, спадарыня Ганна Стагановіч далучыла да сямейных успамінаў добрае слова пра свайго мужа Аляксандра, старэйшага Тамарынага брата, таленавітага мастака, лёс якога быў зламаны нямецкім канцлягерам Дахаў. Спадарыня Надзя Няпейн паказала прысутным вышываныя крыжыкамі закладкі для кніжак, якімі некалі любіла абдорваць прысутных у царкве Марыя Стагановіч, а яна іх удзячна зьберагае праз шмат гадоў.

Што самае прыцягальнае ў гэтых дзьвюх кніжках у цьвёрдых вокладках, рупліва ды ўдумліва (з грунтоўнымі прадмовамі й салíднымі камэнтарамі) выдадзеных у Менску прыватным выдавецтвам "Лімарыус"? Калі казаць агульна: яны даносяць праўду пра падзеі, сьведкамі і ўдзельнікамі якіх былі аўтары, яны распавядаюць пра беларускае жыцьцё, беларускія справы мінулага стагодзьдзя, а гэта цяпер вельмі цікавіць чытачоў на Бацькаўшчыне, асабліва маладых людзей, якія прагнуць веданьне праўдзівай, не сфальшаванай бальшавікамі або суседзямі гісторыі імкнуцца да ўсьведамленьня сябе беларусамі, гаспадарамі свае стагодзьдзямі паняволенае зямлі.

Аляксандар Стагановіч ва "Успамінах пасла" найбольш распавядае пра той кароткі пэрыяд свайго жыцьця, калі ён, селянін зь вёскі Нясутычы на Наваградчыне, быў абраны вяскоўцамі ў польскі Сойм, каб бараніць беларускія інтарэсы. (Нагадаю, што Наваградчына – Заходняя Беларусь – была тады часткаю Польшчы.) Яму нядоўга выпала быць паслом: ад вясны 1928 да вясны 1929. А потым былі шэсьць гадоў судоў і турмаў. Але сваіх перакананьняў, свайго імпэту змагацца за волю й лепшую долю землякоў гэты чалавек не адцураўся, набыты ў Сойме досьвед працы дапамагаў яму пазьней у грамадзкіх дачыненьнях, а ідэалы справядлівасьці натхнялі праз усё ягонае жыцьцё (1890 – 1988).

Марыя Стагановіч (кніга называецца "Мае ўспаміны", выйшла ў сьвет у 2012 годзе) занатавала свае назіраньні ды развагі, пачынаючы з таго часу, калі яна яшчэ дзіцём ды падлеткам адкрывала для сябе навакольны сьвет, а ён быў ясны, чысты, зь песьнямі жней ды шчодрымі гасьцінамі, з шматлюднымі вясельлямі ды хрэсьбінамі. Асобныя старонкі ўзнаўляюць вясковы ды маёнткавы побыт, абставіны яе навучаньня ў Менску, бежанства падчас Першай сусьветнай вайны; зафіксаваныя шматлікія народныя песьні, замовы, ёсьць нават адмысловыя рэцэпты сямейнай кухні. Значная частка гэтых старонак была напісаная па просьбе дзяцей, найперш Тамары, якой хацелася да драбніц ведаць усё пра жыцьцё на Бацькаўшчыне, каб такім чынам лепш разумець свае вытокі й мацней адчуваць сваю беларускасьць на чужыне.

"Успаміны пасла", надрукаваныя ў 2011 годзе, былі першай кнігай у заснаванай выдавецтвам "Лімарыус" сэрыі "Беларуская мэмуарная бібліятэка". Прыемна, што гэты праект працягваецца, і ў ім належнае месца займаюць аўтары-эмігранты. Пасьля Аляксандра й Марыі Стагановіч да чытачоў "выйшаў" Барыс Данілюк, яго кніга называецца "Азіраючыся расой выетымі вачыма" (2012). А цяпер у "рэдакцыйным партфелі" выдавецтва знаходзяцца ўспаміны Яўхіма Кіпеля.

Хочацца спадзявацца, што вялікая ўвага шараговых чытачоў і знаўцаў (гісторыкаў, этнографаў, культуролягаў ды інш.) да апублікаваных апошнім часам успамінаў старэйшых дзеячаў беларускай эміграцыі падахвоціць яшчэ ці адну асобу да пісаньня ўласных мэмуараў. Будзем чакаць ды вітаць!

*Сьцяпан Андрэйчык.*



*Тамара Стагановіч ставіць аўтографы на кніжках сваіх бацькоў*
*Фота Сяргея Трыгубовіча.*

# Іркуцк пад бел-чырвона-белымі сьцягамі



1 чэрвеня ў Іркуцку прайшоў вулічны карнавал, у якім бралі ўдзел калёны нацыянальных меншасьцяў, якія жывуць у гэтым расейскім горадзе і вобласьці.

Сярод калён была і беларуская, якая ішла пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Праход кожнай з калён па цэнтральных вуліцах гораду доўжыўся 22 хвіліны. Жыхары Іркуцку віталі прадстаўнікоў беларускай меншасьці апладысмэнтамі.

У Іркуцку дзейнічае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага, якое было створанае ў 1996 годзе. Дэлегацыя таварыства рэгулярна бярэ ўдзел у зьездах беларусаў сьвету, якія праходзяць у Менску. Паводле перапісу ў Іркуцкай вобласьці пражывае каля 8 тысяч беларусаў, пры гэтым адмыслоўцы мяркуюць, што этнічных беларусаў там значна больш.

# Беларускія студэнты возьмуць удзел ва ўсерасейскай будоўлі на Ямале

На пачатку ліпеня 85 прадстаўнікоў студэнцкіх атрадаў Беларусі праз Маскву накіраваліся на паўвыспу Ямал, каб разам з расейскай моладзьдзю працаваць на ўсерасейскай студэнцкай будоўлі - асваеньні Баваненкаўскай нафтагазакандэнсатнай распрацоўкі. Усяго на гэтай будоўлі ў расейскім Запаляр'і будуць працаваць 200 студэнтаў зь Беларусі. Пакуль што.

У сваю чаргу расейскія будаўнічыя студэнцкія атрады з Астрахані, Обнінска, Пермі накіруюцца ў Беларусь, дзе будуць працаваць на аб'ектах жыльлёвага будаўніцтва ў Менску, на будаўніцтве атамнай станцыі ў Івянцы і інш.

Гэты студэнцкі абмен прадугледжаны сумесным пагадненьнем між «Расейскімі будаўнічымі атрадамі» і Беларускім рэспубліканскім саюзам моладзі, падпісаным сёлета 28 траўня.

Адным словам, «Усе на будоўлі Сыбіру!» - лёзунг савецкіх часоў. Ізноў выкарыстаньне амаль бясплатнай працоўнай сілы дзеля асваеньня зоны вечнай мерзлаты. А за гэта беларусам быццам бы адэкватны абмен – расейскія студэнты ў Беларусі, што будуць працаваць у шматкроць лепшых умовах, чым на Поўначы беларускія юнакі і дзяўчаты.

Усё гэта яшчэ адзін крок у мінулае і адначасна ў будучыню для нашай краіны, якую такім чынам кавалак за кавалкам паглынае Расея. Так можа дайсьці і да таго, што беларускія палітвязьні будуць адпраўляцца ў высылку ў Сыбір па чарговаму здрадніцкаму пагадненьню, якое, як ужо бачыцца, здольны падпісаць беларускі бок.

*Ганна Сурмач*

# Палітыка антыбеларускага рэжыму ў дачыненьні да эміграцыі

Пасьля ўпадку камунізму ў Эўропе палітычныя дачыненьні, тэхналёгіі, мэтады і зьмены прыярытэтаў настолькі ўскладніліся, што сьвет не пасьпявае за асэнсаваньнем падзей. Гэта небясьпечна, бо разьвязвае рукі заганным палітычным сілам.

Посткамуністычны стан у Эўропе характарызуецца пашырэньнем Эўразьвязу і прыходу да ўлады савецкага КГБ у двух краінах - Беларусі і Расеі. Гэтая апошняя падзея вызначыла асаблівую палітыку ва Усходняй Эўропе і, што якраз істотна, яна засталася, практычна, незразумелай на Захадзе. Адзін амэрыканскі прэзыдэнт нават сказаў у 2004 годзе, што глянуў у вочы Пуціну і ўбачыў там душу рускага народа. Магчыма, ён быў недалёкі ад праўды, але меў на ўвазе зусім іншае.

Ідэалёгія абсалютнай улады КГБ у Расеі ёсьць рускі імпэрыялізм з усімі вынікаючымі адсюль абставінамі ў палітыцы. У Беларусі, дзе маскоўцам удалося паставіць свайго стаўленьніка і сканцэнтраваць уладу, гэтая палітыка набыла найбольш сыстэмны і выніковы характар на ўзроўні сучасных паліттэхналёгій, распрацаваных у КГБ.

Мэта маскоўскай палітыкі банальная для Крамля – уключэньне Беларусі ў склад Расеі шляхам стварэньня палітычных, эканамічных і дыпляматычных абставінаў. Ажыцьцяўленьне мэты адбываецца паэтапна і цалкам сістэмна: захоп улады знутры легальным шляхам (з выкарыстаньнем “дэмакратыі”), ліквідацыя палітычнай альтэрнатывы, стварэньне сваёй апазыцыі, зьмена канстытуцыі і заканадаўства, стварэньне аўтарытарнай структуры ўлады, ліквідацыя мяжы з Расеяй, ліквідацыя нацыянальных структураў грамадзянскай супольнасьці, ліквідацыя беларускага радыё і тэлебачаньня, беларускіх выдавецтваў, часопісаў, газэтаў, творчых саюзаў, ліквідацыя беларускіх школаў, падручнікаў і беларускіх вучэльняў, і самае балючае – ліквідацыя беларускай вёскі – крыніцы беларускай мовы, традыцыяў і нацыянальнага сьветаўспрыманьня. Адбываецца падразаньне этнасу, працэс, які разьвіваецца.

За 19 гадоў унутранага акупацыйнага рэжыму і прымяненьня гэбісцкіх вынішчальных тэхналёгіяў разбураныя этнакультурныя асновы існаваньня беларускай нацыі.

Эфэкт каласальны па сваёй разбуральнай сіле і ў гэтым сэнсе перавышае вынішчальныя вынікі 73-х гадоў палітыкі савецкай акупацыі. Беларускую вёску саветы русіфікаваць і зьнішчыць не пасьпелі.

Сучасная расейская палітыка па задушэньні Беларусі, як і раней, шматканальная і распрацаваная ва ўсіх галінах: ад эканомікі і палітыкі да тэрміналёгіі і тапанімікі. Тут, у гэтай цывілізацыйнай вайне ўсё палітыка, непалітыкі ў такіх дачыненьнях няма.

Але ёсьць некалькі прыярытэтаў, якія дожацца сотні гадоў і асэнсаваны цяпер нашымі ворагамі ўжо на ўзроўні новых інфармацыйных тэхналёгіяў. Трансцэндэнтнай асновай гэтых прыярытэтаў ёсьць русіфікацыя. Другі прыярытэт, які выкарыстоўвалі ўжо саветы, - ліквідацыя нацыянальных каштоўнасьцяў народа і падрыў духоўнай асновы беларускай нацыі.

Вынішчальная дзейнасьць па гэтых кірунках не спыняецца. Тут ёсьць аснова, якая пакліканая забясьпечыць перамогу Маскве.

Як і пры Савецкім Саюзе, тэатр вынішчальнай палітыкі не абмежаваны межамі краіны, але ахоплівае ўвесь сьвет, дзе знаходзяцца арганізаваныя групы беларускай эміграцыі.

Задача пастаўлена простая: узяць пад кантроль эміграцыю, узалежніць ад рэжыму асобных яе прадстаўнікоў і прадставіць яе як дыяспару, якую падтрымлівае рэжым і якая, адпаведна, супрацоўнічае з рэжымам.

Замежная палітыка рэжыму супраць Беларускай эміграцыі пачалася ў другой палове 90-х гадоў, адразу, як зьявіліся першыя паліту-цекачы зь Беларусі, і міжнародная супольнасьць прызнала антыбеларускі рэжым як дыктатарскі і недэмакратычны.

Разбуральная выніковасьць рэжымнай палітыкі за мяжой несумненная (хоць і не абсалютная). Яе дасягненьні зьяўляюцца фактам, і пэрспэктыва далейшага ўплыву не зачыненая.

Рэжым дзейнічае праз амбасады і легальную агентуру спэцслужбаў, якая існуе пры амбасадах. Функцыянэры амбасады прыкідваюцца прыхільнікамі беларушчыны і навязваюць кантакты з падатлівымі людзьмі зь беларускіх арганізацыяў. Прапануецца быццам бы падтрымка беларускай справы, сумесныя праекты, абяцаньні інвэстыцый. Беларус, які трапіў у такую распрацоўку, звычайна радуецца, што адчыняюцца добрыя пэрспэктывы ў матэрыяльным і беларускім пляне. Ён можа нават думаць, што гэта ён пачынае ўплываць на “несьвядомых” працаўнікоў амбасады, (не разумеючы, што стаНовіцца агентам антыбеларускага рэжыму) і будзе пераконваць іншых людзей у арганізацыі ісьці на супрацоўніцтва. Эфэкт, як правіла, быў немалы. Шмат беларусаў слаба арыентуецца ў палітыцы, і дапамаговыя грошы ім здаюцца рэальнай каштоўнасьцю.

Вынікам арганізаванай атакі антыбеларускага рэжыму на беларускае замежжа стаў раскол амаль усіх беларускіх культурніцкіх арганізацыяў у краінах былога СССР. Частка беларусаў пайшла на супрацоўніцтва з рэжымнай амбасадай, другая частка засталася на беларускіх адраджэнцкіх пазыцыях.

Практычна, рэжым фармальна як бы стварыў сабе падтрымку дыяспары, але становішча тут палавіністае, бо антырэжымныя арганізацыі таксама дзейнічаюць. Стан іх матэрыяльна цяжкі, але беларускі. Тут ёсьць і мова, і сымбалі, і пазыцыя, і ідэя. Але звужэньне беларускай адраджэнцкай сфэры відавочнае.

Трэба ўлічыць, што ініцыятыва застаецца ў руках рэжыму, асабліва маючы на ўвазе яго кантроль над так званай “апазыцыяй”, шэраг асобаў зь якой ў апошні час апынуліся на захадзе ў розных лабісцкіх арганізацыях, якія рэальна ўзьдзейнічаюць на эўрапалітыку і забясьпечваюць рэжыму магчымасьці для манэўру.

Фактам ёсьць тое, што дэмакратычная антылукашысцкая Эўропа церпіць фіяска за фіяскам, а падтрымка антыбеларускаму рэжыму ў асяродзьдзі эўрапрагматыкаў і карумпаваных групаў узрастае. Сымптаматычным і паказальным прыкладам такога рэальнага становішча ёсьць афіцыйная забарона ўжываньня беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга ў Быдгашчы, Кракаве (Польшча), Стакгольме (Швэцыя), напады, фізычная расправа і затрыманьні за Беларускі Сьцяг у Варшаве, афіцыйнае рашэньне аб забароне паказу Беларускага Бел-Чырвона-Белага Сьцяга Міжнародным хакейным камітэтам і іншыя факты апошняга часу.

Сьцяг – гэта сымбалічная рэальнасьць. Гэта свабодная краіна, нацыя, ідэя. Эўрабюракратыя, верная сваёй псыхалёгіі падвойных стандартаў, не клапоціцца за беларускую волю. Тут безумоўная (хоць, спадзяюся, і часовая) перамога антыбеларускага рэжыму.

У Злучаных Штатах Амэрыкі, дзе беларуская эміграцыя была найбольш моцнай, тактыка подкупу і заангажаваньня не ўжывалася (ды й матэрыяльны ўзровень людзей тут быў іншы). Акцэнт быў зроблены на агентуру і правакаваньне расколаў праз царкву. Гэта стары савецкі падыход, дзе ўлічвалася, што грамадзкае існаваньне беларускай эміграцыі ў ЗША моцна завязана на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную канфэсію.

Спарадычныя кантакты функцыянэраў прадстаўніцтва рэжыму ў Нью-Ёрку і Вашынгтоне з асобнымі беларусамі часам адбываліся, але вынікаў ня ўзьнікла ніякіх.

У апошні час, праўда, сытуацыя стала мяняцца. У гэтым годзе рэжымныя прадстаўніцтвы ў Нью-Ёрку сталі заўважна актывізавацца і справа дайшла да таго, што яны спрабавалі арганізаваць з дапамогаю некаторых тутэйшых беларусаў сустрэчу прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы, найперш - БАЗА, зь міністрам Лукашэнкі кагэбістам Макеем.

Кіраўніцтва БАЗА прыпыніла гэту абсурдную ініцыятыву, і Макей у Нью-Ёрк не прыехаў.

Аналягічныя абставіны высьпяваюць і могуць узьнікнуць у Канадзе. Зьвязана гэта найперш са зьменамі ў эміграцыі. Старое ваеннае адраджэнскае пакаленьне ўжо амаль адыйшло, а новае постсавецкае ня мае той моцы беларускай адраджэнскай базы ў сьвядомасьці і імунітэту супраць чужой разбуральнай ідэалёгіі і тэхналягічнай палітыкі. Таму ў пэрспэктыве ў Амэрыцы можа паўтарыцца тая самая постсавецкая мадэль расколу, якая адбылася ў Летуве, Латвіі, Эстоніі, Пецярбургу, Маскве і іншых месцах былога СССР, населеных савецкімі людзьмі.

Я не люблю агучваць свае прагнозы, але сытуацыя разьвіваецца няўхільна, і хаця б умоўную прыкідку будучыні рабіць неабходна.

Мне давялося прааналізаваць у дынаміцы шэраг чыньнікаў за апошнія 15 гадоў: гісторыю і частотнасьць расколаў, прычыны канфліктаў, рух дэмаграфіі і зьмену пакаленьняў, шкалу каштоўнасьцяў, узровень адукацыі, удзел у палітыцы, кантакты зь Беларусяй, ступень інфармаванасьці пра Беларусь, храналёгію і прычыны матэрыяльных страт (будынкаў, установаў, зямельных надзелаў, архіваў і г. д.), нацыянальную актыўнасьць асоб, колы энтузыястаў, тыпалёгію мэнтальнасьці, ацэнкі антыбеларускага рэжыму і ўзровень успрыняцьця існуючай “апазыцыі” ў Беларусі, адказы на пытаньне “што рабіць” і інш.

Высновы несуцяшальныя. Пры ўмове, што антыбеларускі рэжым праіснуе яшчэ дзесяць гадоў (што ня дай Божа) 9 шансаў з 10-ці гаварыць пра тое, што беларуская эміграцыя ў ЗША можа быць расколата па савецкай мадэлі. Пад пагрозай страты, адпаведна, могуць апынуцца апошнія будынкі і маёмасьць. Шанцаў такога не

дапусьціць – 10 адсоткаў.

Прытым, як і паўсюдна ў чужым асяродзьдзі і пад акупацыяй, галоўным зьяўляецца мэнтальны чыньнік (здольнасьць да самаарганізацыі і барацьбы).

У беларусаў мэнтальны чыньнік, практычна, адмоўны і мераецца таксама ў прапорцыі 1 да 9-ці. Таму шмат што будзе залежаць ад зьбегу абставінаў і канцэнтрацыі на адзіным шансе (на 10-ці адсотках). Дарэчы, пра гэта заўсёды варта памятаць пры арганізацыйнай адраджэнскай працы – 0,1 тут павінна адлічвацца, як базавыя 100 адсоткаў.

Адзін раз у гісторыі скарыстаць шанец удалося эпахальна. Гэта 25 жніўня 1991 года, калі 10 адсоткаў насельніцтва, якія не хацелі жыць у СССР, падтрымалі 10 адсоткаў фронтаўскіх дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання і здабылі незалежнасьць Беларусі, зрабілі вялікі гістарычны паварот у лёсе Айчыны. (Не забывайма, што лёс, уладу, культуру і абарону Вялікага Княства трымала на сабе шляхта, якой таксама было 10 адсоткаў).

Тактычна тут мусіць быць жорсткае стаўленьне да згодніцтва і пазбаўленьне ад калябаранцтва. Інакш адзіны шанец зьнікае (памятайма, што ён адзіны, а супраць – дзевяць).

Станоўчы чыньнік, які якраз найбольш істотны для амэрыка-канадыйскай эміграцыі – гэта існаваньне Рады БНР.

У становішчы агульнага нішчэньня беларускай нацыі вельмі важна, каб існавалі арганізацыі і асобы, якія трымаюць ідэалы барацьбы і будучыні Радзімы. Для шмат якіх беларусаў наяўнасьць ідэалаў (жывая рэальная наяўнасьць) патрэбная як сьцяг змаганьня і існаваньня, як прысутнасьць Бога для вернікаў. Ідэал ёсьць найвялікшы стымул перамогі і прышласьці Беларусі. Адзін да дзесяці, - але ён здольны перамагчы.

*Зянон Пазьняк*

## Дзесяць гадоў бяз Быкава



22 чэрвеня споўнілася 10 гадоў з таго дня, калі адыйшоў у вечнасьць незабыўны Васіль Быкаў, з гэтай нагоды Радыё Свабода арганізавала цыкл перадачаў, прысьвечаных ягонай памяці і значнасьці ягонай асобы ў гісторыі нашай нацыі.

Сп. Янка Запруднік таксама браў удзел у адной з перадачаў, дзе адказаў на пытаньні журналісткі і пісьменьніцы Валянціны Аксак. Прапануем вашай увазе тэкст гэтага выступу сп. Запрудніка (передача 08.06.13):

“**ЯЗ**: Адна ваша слухачка пыталася ў Міхася Тычыны, першага выступоўца ў гэтай сэрыі гутарак, ці будзе Васіль Быкаў ”запатрабаваны” сучасным чытачом?

Я хачу сказаць, што будзе. Дзеля тае простае прычыны, што Быкаў - клясык беларускай літаратуры. Кожнае пакаленьне перачытвае клясыкаў, бо ў іхнай творчасьці ляжаць адказы на надзённыя пытаньні чалавечага быту. Адно такое гарачае сёньня пытаньне, між іншага, я прачытаў на панядзелкавым беларускім сайце Радыё Свабода Вось яно: “Чым патлумачыць, што градус канфліктнасьці ўнутры апазыцыі зараз узьняўся да нечуванага раней узроўню?”

Частковы адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці ў творах Васіля Быкава. Рэч у тым, што ў асобе Быкава мы маем летапісца (у сэнсе мастацкага апісваньня гістарычных падзеяў) і філёзафа-гуманіста. Быкаў ня толькі апісаў тое, што было, але сказаў і тое, што нам ёсьць і будзе патрэбным заўсёды. У Быкава, як у Бібліі – і часовае і вечнае.

Я коратка патлумачу. У творах Васіля Быкава савецкай пары ёсьць ляканічныя (ляканічныя з увагі на суровую цэнзуру) сцэнкі, у якіх антаганізм паміж двума варожымі салдатамі - савецкім і нямецкім - мае маральны тормаз: у пэўных абставінах салдат-вораг глядзіць на іншага салдата-ворага як на чалавека. У аповесьці “Мёртвым не баліць” ёсьць такая сцэнка (пераказваю з памяці): гарматны разьлік савецкіх салдатаў, адступаючы, вядзе з сабой палоннага нямецкага жаўнера. А дзеля таго, што ў цяжкую зімовую непагадзь з гэтым палонным толькі клапатлівая вазьня, дык адзін з канваіраў прапануе “шпокнуць” яго. А лейтэнант-беларус, пачуўшы гэта, у думках кажа сабе: “Бач ты, лёгка яму сказаць ‘шпокнуць’ ”. Маўляў, гэта ж чалавек!

Ёсьць і іншыя прыклады ў творах Быкава, калі пачуцьцё чалавечнасьці бярэ верх над пачуцьцём варожасьці. На шкале чалавечых вартасьцяў у Васіля Быкава прысутнічае маральны тормаз.

І вось гэты духовы элемэнт, на маю думку, вельмі важны для нашага сёньняшняга дня, важны для акультурваньня беларускага палітызаванага грамадзтва. Каб ня “шпокалі” адзін аднаго. Сёньня конча патрэбная чалавечнасьць, здольнасьць бачыць у асобе палітычнага апанэнта чалавека, які, хоць думае інакш, але таксама праняты шуканьнем выхаду зь цяжкой сытуацыі. Я прызнаю, што гэты пошук выхаду вельмі няпросты. Бо куды лягчэй карыстацца бальшавіцкім мэтадам - “шпокнуць” апанэнта: назваць яго здраднікам, ворагам, прадажнікам і, заміж гутаркі, адвярнуцца ад яго.

А Быкаў жа, амаль па-хрыстосаўску, кажа: пабач у ворагу таксама й чалавека.

Вось чаму наш клясык Васіль Быкаў “запатрабваны” сёньня - і чытачамі, і літаратуразнаўцамі, і тэатральнымі рэжысэрамі. А ў тым ліку і сучаснымі апазыцыйнымі палітыкамі”.

## Сяброўскі візыт



26 траўня 2013 г. група вернікаў нашай Афрасінінскай суполкі БАПЦ наведала царкву ў імя сьвятой Афрасіні Полацкае на вуліцы Прытыцкага ў Менску Літоўскім. Мы прыйшлі туды, каб падтрымаць сьвятароў і вернікаў на іхным першым беларускамоўным набажэнстве ў цэркаўцы пры нядзельнай школе ў прыходзе іконы Божай Маці "Всех скорбящих радость".

Агледзелі партрэтную галярэю служкаў Божых, якую стварыла Любоў Грамыка. Сфатаграфаліся ля партрэтаў аўтакефалістаў мітрапаліта Мельхісадэка Паеўскага, япіскапа Бабруйскага Філарэта Раменскага і япіскапа Мазырскага Івана Пашына і некаторых іншых сьвятароў, а таксама на фоне недабудаванага і яшчэ нядзейнага галоўнага храма



*А. Леанід Акаловіч*

## Кіраўнік арганізацыі беларусаў у Латвіі аказаўся супрацоўнікам КДБ

Дэпутат Даўгаўпілскай гарадзкой думы Барыс Іваноў быў супрацоўнікам савецкага КДБ.

Гэтую інфармацыю распаўсюдзіў латвійскі Цэнтр па дакументаваньні наступстваў таталітарызму. Ён падаў пацьверджаньне таго, што Барыс Іваноў быў супрацоўнікам сьпецслужбаў СССР, дзе даслужыўся да капітана. Згодна з законам Латвіі, ён ня меў права атрымліваць грамадзянства краіны і прымаць удзел у выбарах. Шэраг партый падалі ў Генпракуратуру краіны заяву з просьбай распачаць крымінальную справу па факце парушэньня Закона аб выбарах.

Барыс Іваноў зьяўляецца кіраўніком Беларускага культурнага і адукацыйнага таварыства «Уздым», якое супрацоўнічае з афіцыйнымі беларускімі ўладамі.

Барыс Іваноў нарадзіўся у 1955 годзе ў в. Орцы Міёрскага раёну Віцебскай вобласьці, вучыўся ў Латвіі. Займаецца бізнэсам, валодае дзьвума будаўнічымі кампаніямі.

# Навошта Беларусі патрэбна сьмяротнае пакараньне?

*"Забойца - гэта чалавек плюс забойства. Сапраўдная справядлівасьць зьдзяйсьняецца тады, калі судзьдзя карае забойства і адраджае чалавека".*
*В. Р. Крышна Айер, былы суддзя Вярхоўнага суда Індыі*

Пасьпешлівае выкананьне сьмяротных прысудаў у дачыненьні да Уладзіслава Кавалёва і Дзьмітрыя Канавалава, асуджаных па справе тэракту ў Менскім метро, усхвалявала беларускае грамадзтва. Магчыма, аніводная іншая тэма даўно не выклікала такіх ажыўленых дыскусій, як гэтая, што не пакінула абыякавымі ня толькі шматлікіх праваабаронцаў і экспэртаў, але і тысячы простых абывацеляў.

Знайшліся нават тыя, што прымудрыліся абвінаваціць у забойстве Кавалёва і Канавалава саміх жа праваабаронцаў: маўляў, навошта было падымаць міжнародную шуміху і злаваць Лукашэнку. Лепш сканцэнтраваліся б на сьлёзным вымольваньні памілаваньня. Гэтак і глядзі, расчулілі б прэзыдэнта. Толькі ў самай што ні ёсьць рабскай сьвядомасьці магло зарадзіцца падобнае трызьненьне. Ад пачатку было зразумела, што ніякага памілаваньня ня будзе. Паступіўшы інакш, улады прызналі б невінаватасьць прысуджаных і тым самым падпісалі б сьмяротны прысуд самім сабе. Ды і наогул, у Беларусі не прынята літаваць сьмяротнікаў. Прэзідэнт пайшоў на падобны крок толькі аднойчы. Адбылося гэта ў 1999 годзе, калі замянілі сьмяротны прысуд на пажыцьцёвае зьняволеньне, тады заатэхнік забіў старшыню на глебе рэўнасьці.

Што б ні казалі экспэрты, праваабаронцы і міжнародныя арганізацыі, беларускія ўлады працягваюць прыкрывацца грамадзкай думкай у падтрымку сьмяротнага пакараньня. Прыводзяцца вынікі рэфэрэндуму 1996 года - 80,44% насельніцтва прагаласавалі за сьмяротнае пакараньне. Падобная аргумэнтацыя не вытрымлівае ніякай крытыкі. На той момант галоўным было "правесьці" прэзыдэнцкі варыянт Канстытуцыі, астатнія ж пытаньні хутчэй выконвалі ролю адцягваючага манеўру. Больш таго, у адпаведнасьці з заканадаўствам, для адмены сьмяротнага пакараньня ў Беларусі рэфэрэндум не патрабуецца. Верагодней за ўсё, злапомныя 80% былі патрэбныя, каб потым тлумачыць насельніцтву, чаму нас (адзіную краіну ў рэгіёне) не ўзялі ў Раду Эўропы. А туды Лукашэнка ўступаць і не зьбіраўся, інакш давялося б ратыфікаваць Эўрапейскую канвэнцыю па правах чалавека і далей выконваць рашэньні Эўрапейскага суда. Ня варта таксама забываць пра тое, што рэфэрэндум праходзіў, калі альтэрнатывай сьмяротнаму пакараньню ў Крымінальным кодэксе РБ прадугледжвалася толькі пазбаўленьне волі на тэрмін да 15 гадоў, а пажыцьцёвае зьняволеньне было ўведзена ў 1997 годзе.

Якія б лічбы не выдавалі апытаньні, трэба разумець, што забесьпячэньне правоў чалавека ніколі не павінна залежаць ад грамадзкай думкі. Пры любых абставінах недапушчальныя катаваньні, нават калі б у грамадзтве і знайшла падтрымку ідэя аб магчымасьці іх прымяненьня ў пэўных выпадках. Акрамя таго, падтрымка сьмяротнага пакараньня грамадзкім меркаваньнем часта заснаваная на няпоўным веданьні фактаў, а вынікі апытаньняў вар'іруюцца ў залежнасьці ад таго, якім чынам сфармуляваныя пытаньні. Службовыя асобы, адказныя за палітыку ў гэтай сфэры, павінны ня толькі прыслухоўвацца да грамадзкай думкі, але і дамагацца поўнага інфармаваньня грамадзкасьці па гэтай праблеме. Шмат хто, калі б быў належна інфармаваны пра факты прымяненьня сьмяротнага пакараньня і прычыны на адмену, выказаўся б за адмену гэтай меры.

Мноства дасьледаваньняў, праведзеных ў розных краінах сьвету, паказваюць, што стаўленьне да сьмяротнага пакараньня можа зьмяняцца, калі лепш вядомыя факты. Падобныя тэндэнцыі ўласьцівыя дэмакратычным сістэмам, дзе грамадзкае меркаваньне рыхтуе глебу для насьпелых зьменаў зьнізу. Пры аўтарытарызме, грамадзкім меркаваньнем маніпулююць з мэтай мабілізацыі падтрымкі спушчаных зьверху дырэктыў. Адукацыйнай працы з насельніцтвам па пытаньні сьмяротнага пакараньня беларускія ўлады не вядуць. У сувязі з гэтым зусім ня дзіўнымі здаюцца лічбы, апублікаваныя аналітычным цэнтрам пры адміністрацыі прэзідэнта ў 2010 годзе. Паводле яговых дадзеных, 79,5% насельніцтва выступаюць за сьмяротнае пакараньне, 4,5% - супраць. Беларускія дасьледчыкі лічаць, што высокі працэнт падтрымкі насельніцтвам сьмяротнага пакараньня ёсьць водгаласам таталітарнага мінулага Беларусі ў складзе СССР. З канца 20-х і да сярэдзіны 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя былі пашыраны межы прымяненьня сьмяротнага пакараньня. Яно мела грамадзкую падтрымку, чаго не было пры царызме.

І ўсё ж ёсьць падставы меркаваць, што насельніцтва Беларусі з часу правядзеньня рэфэрэндуму 1996 года зьмяніла сваё стаўленьне да сьмяротнага пакараньня. Па дадзеных сацыялягічнага апытаньня, праведзенага НІСЭПД у кастрычніку 2010 года, супраць адмены сьмяротнага пакараньня выказалася 48,3% рэспандэнтаў, за - 42,4% і 9,3% - не змаглі адказаць / не адказалі. Апытаньне, праведзенае ў сакавіку 2012 года, дало наступныя вынікі: супраць адмены сьмяротнага пакараньня - 40,8%, за - 49,7% і 9,5% - не змаглі адказаць / не адказалі. Прыведзеныя лічбы робяць абсурднымі лютаўскія заявы парлямэнтарыяў пра тое, што пытаньне пра адмену сьмяротнага пакараньня – гэта ўнутраная справа Беларусі і прыняцьце рашэньня па ім магчыма "толькі з улікам меркаваньня беларускага грамадзтва".

Складаецца парадаксальная сытуацыя. Яшчэ 11 сакавіка 2004 года Канстытуцыйны суд на запыт Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу праверыў адпаведнасьць палажэньняў аб сьмяротным пакараньні, якія ўтрымліваюцца ў Крымінальным кодэксе, Канстытуцыі краіны. Суд пастанавіў, што некалькі палажэньняў Крымінальнага кодэксу супярэчаць Канстытуцыі, у выніку чаго зьявілася магчымасьць для адмены сьмяротнага пакараньня ці ўвядзеньня мараторыю на выкананьне сьмяротных прысудаў як пачатковай меры, неабходнай для іх поўнай забароны. Незалежныя апытаньні кажуць пра гатоўнасьць грамадзтва да адмены сьмяротнага пакараньня. Такой жа пазыцыі прытрымліваецца і Беларуская Праваслаўная Царква. Хоць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ў большасьці сваёй і супраць адмены сьмяротнага пакараньня, у 2009 годзе была сфармавана рабочая група па гэтым пытаньні і нават на канец 2011 года былі ўнесены ў папярэдні план парлямэнцкія слуханьні на тэму сьмяротнага пакараньня. Узьнікае пытаньне: чаму ж яго да гэтага часу не адмянілі? Чым і каму выгадна яго захаваньне?

Апраўдаць неабходнасьць захаваньня сьмяротнага пакараньня ў Беларусі немагчыма ні практыкай, ні разумным сэнсам. Пра тое, што гэта пытаньне палітычнае, адкрыта заяўляюць нават самі беларускія парлямэнтары. Напрошваецца як мінімум два адказы: зьнешнепалітычны і ўнутрыпалітычны. Адмену сьмяротнага пакараньня можна выгадна абмяняць, напрыклад, на зьняцце эканамічных і іншых санкцый, вяртаньне гандлёвых прэфэрэнцый, чарговыя пазыкі і доўгачаканыя інвестыцыі. "У нас быў бы ўжо вынік, калі б не палітыка "падвойных стандартаў", якую праявіла Эўропа", - журыўся ў лютым сёлета старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па заканадаўстве і судова-прававых пытаньнях Мікалай Самасейка. Смяротнае пакараньне - гэта, калі і не джокер, дык прынамсі казырны туз ў гульні з Захадам.

На ўнутраным жа ўзроўні пасродкам сьмяротнага пакараньня можна "зачыняць" цёмныя справы накшталт "тэрарыстычнага акту" 11 красавіка 2011 года (калі сапраўдных злачынцаў ня хочуць прыцягнуць да адказнасьці па аб'ектыўных прычынах) і трымаць у страху палітычных апанентаў. Пакараньнем сьмерцю Кавалёва і Канавалава беларускія ўлады далі ясна зразумець, што ў краіне, дзе і гаворкі ня можа ісьці аб міжнародным тэрарызме (улічваючы нашыя сяброўскія сувязі з рэжымамі, адкуль ён паходзіць), дзе няма міжнацыянальных канфліктаў і дзе не існуе непадкантрольная дзяржаве арганізаваная злачыннасьць, кожны можа ня толькі стаць ахвярай "тэрарыстычнага акту", але і быць прыцягнутым да адказнасьці за яго ўчыненьне. Кожны! А яшчэ пры дапамозе сьмяротнага пакараньня можна адцягваць увагу ад надзённых праблем (у тым ліку і ў сувязі з ростам злачыннасьці) і даваць магчымасьць выпускаць пару даведзенага да адчаю і галечы насельніцтва.

Да таго часу, пакуль беларускія ўлады будуць мець магчымасьць карыстацца сьмяротнай карай як інструмэнтам вырашэньня вышэйзгаданых праблем, яе адмена не ўяўляецца рэалістычнай ў агляднай будучыні.

*Вячаслаў Бортнік*

**Дарагія сябры!**

**З прыемнасьцю паведамляю, што выйшаў другі нумар часопіса "САКАВІК".**
**Прачытаць яго Вы зможаце на вэб-сайце http://www.sakavik.net/**

***Пётра Мурзёнак***

# Каляндар памятных датаў на ліпень - жнівень 2013

## Ліпень

**2 ліпеня** - 25 гадоў таму, у 1988 годзе, памёр Чэслаў Ханяўка, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**3 ліпеня** – у 1660 годзе, войскі Рэчы Паспалітай вызвалілі ад расейцаў горад Менск і тэрыторыю да ракі Беразіны

**4 ліпеня** - Дзень незалежнасьці ЗША

**4 ліпеня** – 25 гадоў таму, у 1988 годзе, у Вільні створаны беларускі клюб "Сябрына"

**5 ліпеня** - 75 гадоў таму, у 1938 годзе, заснаваны Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

**6 ліпеня** – 760 гадоў таму, у 1253 годзе, Вялікі князь Літоўскі Міндоўг каранаваўся ў Навагрудку

**7 ліпеня** – 380 гадоў таму, у 1633 годзе, памёр Леў Сапега, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага

**8 ліпеня** – 20 гадоў таму, у 1993 годзе, у Менску пачаўся Першы зьезд беларусаў сьвету

**9 ліпеня** - 150 гадоў таму, у 1863 годзе, у Вільні павешаны Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня

**13 ліпеня** - 20 гадоў таму, у 1993 годзе, у Магілёве прайшоў першы фестываль хрысьціянскай музыкі "Магутны Божа"

**14 ліпеня** – 15 гадоў таму, у 1998 годзе, памёр Леанід Кароль, грамадзкі дзеяч у Вільні

**19 ліпеня** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, у савецкім канцлягеры загінуў Сяргей Дарожны, пісьменьнік

**26 ліпеня** – 20 гадоў таму, у 1993 годзе, у Рэспубліцы Беларусь было спынена абарачэньне савецкіх грошай і ўведзена нацыянальная валюта

## Жнівень

**5 жніўня** – 105 гадоў таму, у 1908 годзе, памёр Валеры Урублеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863 году, генерал Парыжскай камуны

**12 жніўня** – 120 гадоў таму, у 1893 годзе, нарадзіўся Аляксандр Ружанцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**13 жніўня** – 100 гадоў таму, у 1913 годзе, нарадзіўся Анатоль Багатыроў, кампазытар

**14 жніўня** – 55 гадоў таму, у 1958 годзе, памёр Эдвард Будзька, паэт, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**15 жніўня** – 25 гадоў таму, у 1988 годзе, памёр Мікола Дварэцкі, паэт, грамадзкі дзеяч у Польшчы

**16 жніўня** – 110 гадоў таму, 1903 годзе, нарадзіўся Мікола Абрамчык, прэзыдэнт Рады БНР (1947-1970)

**17 жніўня** – 10 гадоў таму, у 2003 годзе, памёр Павал Гуз, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**18 жніўня** – 400 гадоў таму, у 1613 годзе, памёр Іпацій Пацей, царкоўны уніяцкі і дзяржаўны дзеяч

**19 жніўня** – 70 гадоў таму, у 1943 годзе, у савецкім канцлягеры памёр Іосіф Воўк-Левановіч, мовазнавец

**20 жніўня** – 75 гадоў таму, у 1938 годзе, расстраляны Уладзімір Пракулевіч, палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**22 жніўня** – 115 гадоў таму, у 1898 годзе, памёр Альгерд Абуховіч, пісьменьнік

**22 жніўня** – 35 гадоў таму, у 1978 годзе, памёр Піліп Пестрак, пісьменьнік

**22 жніўня** - 25 гадоў таму, у 1988 годзе, памёр Віталь Вольскі, пісьменьнік

**26 жніўня** – 80 гадоў таму, у 1933 годзе, выйшла пастанова Савета Камісараў БССР "Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу", скіраваная на зьнішчэньне адметнасьці беларускай мовы і навязаньне так званай "наркамаўкі".

# Ня стала Юрася Бушлякова




У Менску пасьля цяжкай хваробы памёр філёляг, пэдагог, журналіст Радыё Свабода Юрась Бушлякоў.

Юрась Бушлякоў адыйшоў 4 чэрвеня а 19-й гадзіне. 29 траўня яму споўнілася 40 гадоў.

Пасьля заканчэньня менскай сярэдняй школы з залатым мэдалём Юрась паступіў на філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, які скончыў з чырвоным дыплёмам.

У 2003 годзе ён абараніў дысэртацыю на тэму «Моватворчая практыка Янкі Станкевіча (з гісторыі нармалізацыі беларускай мовы)». Выкладаў у БДУ, у Нацыянальным гуманітарным ліцэі ў Менску, у Карлавым унівэрсытэце (Прага).

Журналістыкай Юрась займаўся ад 1994 году, працаваў у незалежных СМІ, на Радыё Рацыя, апошнія дзесяць год — на Радыё Свабода. Быў адным з найбольш слынных беларускіх філёлягаў, адданым захавальнікам і папулярызатарам роднай мовы. Нашым чытачам ён мусіў бы запомніцца тым, што менавіта ён чытаў тэкст на Радыё Свабода беларускай дыктоўкі – «Ліст з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага і так сталася, што гэты тэкст стаўся разьвітальным і для самога Юрася.

# Багдан Андрусышын: "Юрась заўсёды быў джэнтльмэнам"

Для нас, Юрасёвых калегаў, ягоны заўчасны адыход - глыбокі смутак і страта. Для яго сям'і і блізкіх — вядома ж, нешта яшчэ большае. У такіх выпадках, калі выказваеш свой смутак, заўсёды рызыкуеш упасьці ў сэнтымэнтальнасьць, казаць банальнасьці, карыстацца штампамі. Але ж як выказаць гэта інакш? Юрась Бушлякоў быў адным зь нямногіх людзей у маім жыцьці, пра каго я не магу сказаць ніводнага адмоўнага слова. Напэўна, яго самай характэрнай рысай быў амаль дзэн-будысцкі спакой.

У нашым бурлівым рэдакцыйным асяродзьдзі, калі апошняя гарачая, часам спрэчная інфармацыя зьяўляецца за сэкунды да эфіру, пакуль вакол яго кіпелі эмоцыі і сутыкаліся самалюбствы, Юрась у ролі мадэратара спакойна правяраў інфармацыю, зьбіраўся з думкамі і сядаў перад мікрафонам у студыі. Кароткімі выразнымі фразамі, спакойна і сабрана, ён вітаў нашых слухачоў сваім цёплым барытонам і бездакорнай беларускай мовай і старанна ды ясна расказваў ім пра падзеі дня. Усе гады, што мы працавалі разам, Юрась заўсёды быў джэнтльмэнам — ветлівым, надзейным, адказным і ўважлівым. А калі ён захварэў, выявілася шмат іншых ягоных цудоўных якасьцяў. Юрась Бушлякоў назаўсёды застанецца ў маёй памяці як вытанчаны, годны і надзвычайна мужны чалавек.

# Памёр Уладзімер Стальмашонак



Раніцай 7 чэрвеня ў Менску на 86-м годзе жыцьця пасьля цяжкай і працяглай хваробы памёр народны мастак Беларусі Уладзімер Стальмашонак.

Мастак пакінуў па сабе знакавыя творы, якія застануцца ў кантэксьце нацыянальнай культуры. Гэта, найперш, знакамітыя партрэты Якуба Коласа і Рыгора Шырмы, шэраг станковых карцін. У 90-я гады ён пісаў карціны, прысьвечаныя вялікім князям ВКЛ — гэта тое, што робіць гонар нашаму мастацтву.

Уладзімер Стальмашонак таксама стварыў партрэты Францішка Скарыны, Кірылы Тураўскага, Пятра Мсьціслаўца, Эўфрасіньні Полацкай, прадстаўнікоў роду Радзівілаў.

Шмат гадоў Стальмашонак выкладаў у Акадэміі мастацтваў.

## Продкі Эмі Уайнхаус жылі ў Беларусі



На пачатку ліпеня ў Лёндане адкрылася выстава Эмі Уайнхаус на вуліцы, дзе жыла сьпявачка. Пяціразовая ўладальніца «Грэмі» памерла ва ўзросьце 27 гадоў ад передазіроўкі алькаголю.

Жыдоўскі музэй горада Камдэн (месца нараджэньня сьпявачкі) разам зь сям'ёю зоркі сабраў экспанаты для экспазыцыі. Яны сьведчаць пра тое, што прадзеды Эмі жылі ў Беларусі, у 19 стагодзьдзі яны пакінулі краіну, каб накіравацца ў Амэрыку, але назаўсёды затрымаліся ў Англіі.

## Х'ю Грант: Жыве Беларусь!



*Сустрэча брытанскага акцёра з адным зь лідараў беларускай апазыцыі Андрэем Саньнікавым нядаўна адбылася ў Лёндане.*

*Вядомы брытанскі артыст падтрымаў беларускіх палітвязьняў:*

«Я хачу выказаць сваю падтрымку беларускаму народу, які вядзе барацьбу супраць апошняй рэпрэсіўнай дыктатуры Еўропы. Я падзяляю надзеі ўсіх людзей на Захадзе на тое, што Беларусь у хуткім часе стане свабоднай краінай. Хацеў бы выказаць асаблівую падтрымку тым адважным беларусам, якія змагаюцца супраць прыгнёту і кінутыя ў турмы за свае перакананьні - такім, як Зьміцер Дашкевіч, Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Мікалай Аўтуховіч, Ігар Аліневіч і іншыя. Я хачу, каб беларусы, якія вядуць барацьбу за свабоду, ведалі, што ўвесь сьвет праяўляе шырокую салідарнасьць зь імі. Жыве Беларусь!», - заявіў Х'ю Грант.

***Ліст у Рэдакцыю***

## Паказное невуцтва накладам 1940 асобнікаў

Надоечы атрымаў чарговы,13-ты нумар дадатку да прэзыдэнцкай газэты "СБ.Беларусь сегодня" - "Голас Радзімы", які выйшаў у сьвет 4 красавіка сёлета.

2 красавіка ў Беларусі адзначаюць на дзяржаўным узроўні так званае сьвята День единения народов Беларуси и России, таму 13-ы нумар менавіта яму "адваліў" амаль поўных тры з чатырох старонак газеты. Папутна заўважу, што ў гэты дзень расейскі тэлеканал "Россия-РТР" у вечаровай праграме навін "Вести", якую я гляджу штодня, жодным словам ня ўспомніў пра гэту "важную дату чырвонага календара", якую ў Беларусі "сьвяткуюць" з помпай у дзяржаўных СМІ.

І "Голас Радзімы" не выключэньне: "Родныя людзі","Утульны дом у спадчыну","Талака працуе на будучыню" наперабой "сьпяваюць" аб "яднаньні" беларусаў з расейцамі, як добра жывецца ім у Цюменскай вобласьці, а расейцам ды іншым "панаехаўшым" у Беларусь, у Беларусі... Калі б не было даты выхаду нумара, можна было б падумаць, што гэта газэта часоў Брэжнева-Андропава, калі йшла прапаганда за адну мову (расейскую) і ...адзін народ - савецкі! Але ж на двары XXI стагодзьдзе, шаноўнае спадарства! "Наша сіла - у адзінстве!" - пад такім дэвізам праходзіла прэс-канфэрэнцыя ў Нацыянальным прэс-цэнтры, на якой "згадваўся і той час, калі існаваў СССР, у якім было галоўнае - супольнасьць народаў, а не разьяднанасьць, як гэта часта бывае на постсавецкай прасторы сёньня" ( піша ва "Утульным доме ў спадчыну" Яўген Дарэнскі). І дабаўляе: "Зрэшты, якраз у Беларусі, дзякуй Богу, міжнацыянальных спрэчак няма..." Як кажуць,без каментароў! Які поп, такі і прыход!

1940 асобнікаў "Голасу Радзімы" высылаюцца з рэдакцыі "Саўбеліі" ва ўсе беларускія суполкі на постсавецкай прасторы бесплатна: на прапаганду так званага "савецкага ладу жыцьця беларусаў таталітарны прарасейскі рэжым краіны грошай не шкадуе, бо гэта й расейскія грошы на русіфікацыю беларусаў, на так званы пуцінскі "Рускі сьвет"...

Але ж беларусы за межамі Беларусі рознага сьветаўспрыманьня, і калі, скажам, расейскім беларусам, якія жывуць у Цюменскай вобласьці, расейцы - "родныя людзі ", і расейская мова таксама "родная", то асабіста мне расейцы такія ж чужародныя, як кітайцы ці афрыканцы.

Дзякаваць Госпаду Богу, я не жыву ў "братняй Расеі", таму мне ня ўсё роўна як пішацца па-беларуску слова СЭРЦА, бо маё сэрца БЕЛАРУСКАЕ, бо мая родная мова - БЕЛАРУСКАЯ, бо маё сьвята галоўнае не 2 красавіка, а 25 САКАВІКА!!! Я ўпэўнены, што ня толькі для мяне, а й для бальшыні беларусаў дыяспары нашай у вольным сьвеце. Але ж газэта "Голас Радзімы" не паступілася сваёй савецкасьцю: пра 95-годзьдзе БНР не надрукавала жоднага радка!!! Затое надрукавала здымак на першай старонцы "сьвяточнага" нумару газеты са "сьвята цюменскіх беларусаў", на якім жоўтым колерам зьедліва выведзены зьдзек з беларускай мовы: “Адно сэрдца”,

Дзьве Радзімы... Жах, шок, роспач! Цюменскія беларусы могуць ня ведаць, што слова "сэрца" пішацца па-беларуску бязь літары "д", але беларусы ў сталіцы краіны не павінны былі ставіць у нумар паказное невуцтва і зьдзек з нашай роднай мовы!

Сардэчна запрашаем, сардэчны сябар,сардэчныя вітаньні, але... “сэрца”: прытуліць да сэрца, ад усяго сэрца, ад шчырага сэрца, адно сэрца і г.д. Гэты 13-ты нумар газеты разьбіў маё патрыятычнае сэрца...

*Пятрусь Капчык,*
*Ізяслаў, Украіна*

## Сэнатар Франк Ляўтэнбэрг (1924 – 3.06.2013)



3 чэрвеня памёр сэнатар Фрэнк Лаутэнбэрг. Ён быў сябрам Дэмакратычнай партыі і прадстаўляў у Сэнаце штат Нью Джэрзі, дзе традыцыйна жыве шмат беларусаў.

Ньюджэрзійскі сэнатар-дэмакрат Франк Ляўтэнбэрг працягам 30-гадовае службы ў Сэнаце ЗША часта наведваў беларускія выстаўкі. Ён таксама быў заўсёды даступны беларуска-амэрыканскім дэлегацыям для сустрэчы зь ім. Ягонае зацікаўленьне беларускімі справамі тлумачылася ня толькі тым, што шмат якія беларусы галасавалі за яго, але й кроўнай сувязьзю зь Беларусьсю, адкуль была родам ягоная маці.

## Увага!

У ЗША выйшла з друку кніга Янкі Запрудніка “Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў Нью-Джэрзі. Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2011 гг.)” - “Belarusian Festivals and Exhibitions in New Jersey. Political Information through the Language of Art (1948-2011). New York, 2013”.

Кніга выдадзена пад эгідаю Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

Гэтая кніга-альбом павінна зьявіцца ў кожнай беларускай сям’і і быць напамінам цяперашняму беларускаму пакаленьню ў дыяспары пра папярэднікаў ды як служыць Беларусі на чужыне.

Кошт выданьня – $ 40 плюс $ 10 за дасылку.

Падпісчыкам кніга будзе даслана з аўтографам аўтара.

Зьвяртацца:
*BINIM*
*330 Park Str.*
*Haworth, NJ 07641*
*Ці на электронны адрас :*
*janzap@aol.com*

# Перамога беларускі



Газэта "Беларус" далучаецца да віншаваньняў! Беларуская дактарантка Паліна Прысмакова атрымала ўзнагароду за лепшую студэнцкую працу на міжнароднай навуковай канфэрэнцыі па дзяржаўным кіраваньні, якая адбылася ў траўні ў Бялградзе (Сэрбія). Штогадовая канфэрэнцыя ладзіцца Сеткай інстытутаў і вышэйшых навучальных установаў па грамадзкіх справах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

У дасьледаваньні Паліны разглядалася матывацыя працы людзей у розных краінах Эўропы. Ейная праца спаборнічала за ўзнагароду з амаль сотняй іншых даволі моцных студэнцкіх дыплёмных работ, прадстаўленых на канфэрэнцыі. Судзейская калегія ўключала Кэры Бан, перадапошняга дэкана Вышэйшай школы міжнародных і грамадскіх адносінаў унівэрсытэту Піцбургу (ЗША), і Юрая Немеца, бясспрэчна аднаго з самых паважаных навукоўцаў з галіны дзяржкіраваньня ў краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы.

Пад час уручэньня ўзнагароды беларуская дактарантка выказала падзяку Міжнароднаму ўнівэрсытэту Флярыды (ЗША) за выдатную падтрымку, якую ён аказвае ў напісаньні яе дысэртацыі, а таксама Вышэйшай школе грамадзкай адміністрацыі ў Беластоку (Польшча), дзе Паліна пачынала сваю вышэйшую адукацыю. Гэтай прамовай пераможца конкурсу нагадала, што беларуская таленавітая моладзь вартая падтрымкі міжнароднай супольнасьці. Стварэньне спрыяльных умоваў для навуковай дзейнасьці і ўсебаковага разьвіцьця дае выдатныя вынікі. Дзясяткі маладых беларускіх магістрантаў і асьпірантаў, якія, як і Паліна, вучацца за мяжой, годна прадстаўляюць новую беларускую інтэлігенцыю ў сьвеце ды ствараюць пазытыўны імідж Беларусі.

Рэпутацыя нашае краіны моцна зьвязаная з псыхалягічным самаадчуваньнем суайчыньнікаў. Асабліва тых, якія жывуць за мяжой або займаюцца міжнародным бізнэсам, а таму ў паўсядзённым жыцьці больш за іншых адчуваюць на сабе суб'ектыўныя прадузятасьці іншаземцаў.

На беларускую моладзь можна разьлічваць. Падтрымаем яе й дапаможам умацаваць уяўленьне пра беларусаў, як пра разьвітую й высокакультурную нацыю!

# Купальле ў Іркуцку. Фотарэпартаж





*Купальле ў Іркуцкай вобласьці, якое ладзіла Таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага на беразе Ангары*





# Праўнучка Касьцюшкі ідзе ў мэры Парыжа



Наталі Касьцюшка-Марызэ возьме ўдзел у выбарчай кампаніі ў якасьці кандыдаткі ў мэры францускай сталіцы. 3 чэрвеня яна перамагла ў праймерыз сваёй партыі «Унія за народны рух».

Наталі Касьцюшка-Марызэ была міністаркаю пры Нікаля Сарказі, а да гэтага - дэпутатам парлямэнта. З 2008 году Наталі зьяўляецца мэрам горада Ланжума.

Продкам Наталі быў брат Тадэвуша Касьцюшкі. Дзед - Жак Касьцюшка быў паслом Францыі ў ЗША, прадзед Андрэ Марызэ - сэнатарам, бацька – ёсьць мэрам Сеўра.

*(паводле газэты "Коммерсант")*

# Беларуская мова ў фільме Чарлі Чапліна




На плякаце аднаго з дэманстрантаў у фільме «Цяперашнія часы» напісана «Свабода» кірыліцай і па-беларуску.

«Цяперашнія часы» ( Modern Times) — апошні "нямы" фільм Чарлі Чапліна, гэта камэдыя 1936 году пра прыгоды Маленькага Валацугі, які спрабуе выжыць у новым індустрыяльным грамадзтве ў часы Вялікай дэпрэсіі.

# Купальле пад Нью-Ёркам. Фотарэпартаж









# Вікторыя Азаранка пад бел-чырвона-белым сьцягам на Уімблдоне




Беларуская тэнісыстка ў сьпісе ўдзельнікаў Уімблдонскага турніру была прадстаўлена пад гістарычным сыбалем сваёй краіны.

У матчы першага кругу другая ракетка сьвету перамагла тэнісыстку з Партугаліі Марыю Жоау Келер. У другім сэце Вікторыя атрымала траўму, тым ня менш, “на аднойназе” яна змагла перамагчы суперніцу. Аднак, з-за траўмы ёй усё ж давялося зьняцца з турніру.

# Першы беларускі майстар-клас па вышыўцы ў Таронта

8 траўня адбыўся мой першы майстар-клас па беларускай традыцыйнай тэхніцы вышыўкі “нізанка”.

Цешуся меркаваньнем, што гэта – першы ў гісторыі беларускі майстар-клас у Канадзе. Прынамсі, мне пра такія невядома. Сьведчу нават па тым, што пра беларускую вышыванку наагул у Канадзе (мяркую, і ў Амерыцы) нічога не вядома. Не было вядома да гэтага часу...

*Ірына Варабей*

# Віншаваньне



*Сардэчна віншуем спадарыню Лізу Літаровіч з 80-годзьдзем! Ад свайго прыезду ў Амэрыку й дагэтуль юбілярка бярэ актыўны ўдзел у эміграцкім грамадзка-культурным жыцьці беларусаў, а таксама ў дабрачыннай дапамозе суродзічам на Бацькаўшчыне. Мае цудоўных дзяцей і ўнукаў!*

*Зычым ёй і надалей добрага здароўя ды нязломнага жыцьцёвага аптымізму!*

*Надзя й Янка Запруднікі, Валянціна Трыгубовіч.*

# На выданьне “Беларуса” ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Алена Амбросава | $ 50 |
| Сяргей Божка | $ 50 |
| Кацярына і Яраслаў Вініцкія | $100 |
| Аляксандр | $ 40 |
| Юры Лапіцкі | $ 50 |
| Кацярына Масяйчук | $ 50 |
| Івонка Сурвіла | $ 100 |
| Інна Фанская | $ 50 |
| Ананім | $ 50 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** *BIELARUS newspaper* дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэклямадаўца.*